НАВУКОВЫЯ АДКРЫЦЬЦІ

# Беларускі голас з глыбокай даўніны

***«Тыднёвік Магілёўскі» рады паведаміць пра адкрыцьцё, якое зрабіў наш даўні аўтар, вядомы магілёўскі гісторык-навукоўца, кандыдат гістарычных навук Ігар Марзалюк.***

Адным з галоўных вынікаў яго апошніх дасьледчыцкіх намаганьняў стала знаходка дасюль невядомай вэрсіі эпітафіі «На сьмерць яснавяльможнага шляхціча Георгія Пласкавіцкага, забітага Масквой». Сымон Полацкі напісаў яе на старабеларускай мове.

Сама эпітафія ўжо была вядомая зь сярэдзіны 60-х гадоў ХХ-га стагодзьдзя ў польскамоўным варыянце. Але высьветлілася, што ёсьць і іншы, арыгінальны старабеларускі тэкст. Як сьведчыць сам Ігар Марзалюк, абодва яны абсалютна самастойныя, іх аб'ядноўвае толькі тэма. А вось сродкі, з дапамогаю якіх аўтар перадаваў мастацкі вобраз і сваю думку, цалкам розныя. Эпітафію, на думку дасьледчыка, сваякі забітага пана так і замаўлялі: у двух розных варыянтах.

Знаходка магілёўскага гісторыка сьведчыць, што фігуру Сымона Полацкага, славутага дзеяча сівой даўніны, «акупаванага» расейскай культурнай традыцыяй як свайго, на самой справе трэба разглядаць у шырокім культурным кантэксце, і ва ўсялякім выпадку для беларусаў Сымон Полацкі важыць ня менш. Прайшлі стагодзьдзі, ужо невядома, хто такі пан Пласкавіцкі і за што яго забілі. Але талент вялікага паэта захаваў для нас часьцінку таго трагічнага часу, зь якім зьвязаныя велічныя і неспакойныя старонкі беларускай гісторыі, і якому належыць у тым ліку й імя невядомага «яснавяльможнага шляхціча».

***Уласная інфармацыя***

ВЫПРАБАВАНЬНЕ НА ЦЫВІЛІЗАВАНАСЬЦЬ: ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Пакаянны ліст вызваліцеля

«Я ня ведаю, да каго трапіць гэты ліст, аднак хацелася б, каб гэта хоць неяк дапамагло гэтым людзям, – так званым быццам бы баявікам. Сам я служу, дабіваю свае суткавыя й вырашыў неяк паінфармаваць, бо ведаць аб гэтым і не распачаць якіх-небудзь дзеяньняў ці захадаў, ня ведаю чаго, але гэта сапраўды ёсьць злачынствам. Тутака гэтых людзей мы... я кажу «мы» таму што я таксама ў ліку катаў-радавых, і акром таго як напісаць, нічым не магу ім дапамагчы. Хоць да прыезду сюды мяне намовілі, што ўсе чачэнцы – ворагі й злачынцы, яны – нармальныя людзі й трапляюць сюды:

1. Не перарэгістраваны пашпарт
2. Няма пашпарту (а пашпартоў ім не выдавалі з 1996 году). 17, 18, 19-гадовыя хлопцы з-за адсутнасьці блянкаў.
3. У адным ауле прапісаны, пайшоў у госьці ў суседні аул.
4. Выйшаў у двор пакурыць пасьля 6-й гадзіны акурат з хаты.
5. Знайшлі ў хаце плашч-палатку, салдацкі пояс і таму падобнае: адкуль? што? калі?..

Іх тут літаральна забіваюць. Трэба проста чуць гэтыя крыкі здаровых хлопцаў, якім ламаюць што прыйдзецца. Іншых – апускаюць ці прымушаюць гэта рабіць адзін аднаго. Калі Пекла існуе – яго можна забачыць тут. Па-мойму, іхная віна – што яны не пайшлі ваяваць супраць нас. Га, быў тут гэты журналіст некалькі дзён – Бабіцкі. Да апусканьня не дайшло, але адрываць – пуцём адрывалі, аж акуляры лёталі, небарака...

Партыямі кожнага дня прывозяць. Іх тутака да 700 чалавек. А па падазрэньні, што баявік – 7 чалавек. Тыя – напаўзгніўшыя. Так ім і трэба, мне іх не шкада. Дваіх шлёпнулі. Я не магу апісваць гэтыя экзатычныя прыёмы – ламаньне чалавечага духу, пераўтварэньне чалавека ў жывёлу. Я заканчваю пісаць, аднак хочацца, калі ў сьвеце ёсьць якія-небудзь сілы, – дапамажыце гэтым людзям. А ва ўласным урадзе я расчараваўся: падман, хітрасьць, двудушнасьць. Ну няхай. Я не такі ўжо граматны, калі што.

Наур. Чарнакозава. Выпраўленча-працоўная калёнія. З зразумелай прычыны сябе не называю. 3.02.2000».

***(Паводле Радыё «Свабода». Ліст расейскага салдата з «фільтрацыйнага лягеру» ў Чачэніі).***



# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна



**Ленінскі раён абласнога цэнтру сярод яшчэ двух сабе падобных вызначаны як лепшы. Жыцьцё ня тое, што ў адным, асобна ўзятым раёне, а нават па ўсёй краіне ў нас аднолькавае. Аднак жа гарвыканкам знайшоў тут нешта адметна-лепшае. Магчыма, назву. І ўзнагародзіў раён чырвоным сьцягам, а кіраўніцтва – 300 мінімалкамі.**

**Бабруйскі грамадзкі цэнтар «Міласэрнасьць» склікаў на сход прадстаўнікоў інвалідаў агульных захворваньняў, таварыстваў сьляпых і глухіх. Сказаць што-небудзь суцяшальнае гэтым людзям, якія пакутуюць ад нашага жыцьця больш за іншых, ня змог. Таму ў выніку гаворкі ўсе разам вырашылі запрасіць наступным разам на сустрэчу прадстаўнікоў улады. На такім спатканьні я б ахвотна пабываў: надта цікава пачуць, што скажуць гаротнікам яны.**

**У Асіповічах не без урачыстасьці ўсталявалі раённую дошку гонару. На ёй разьмесьцілі фотапартрэты перадавых, зразумела, мэханізатараў і даярак. І пачалі імі ганарыцца. А што яшчэ можна рабіць, калі даяркі і мэханізатары ёсьць, а мяса, малака, сьмятаны і масла замала. Вось і даводзіцца ганарыцца тым, што ёсьць. А чаго няма, за тым у чарзе стаім.**

**Гарадзкія дэпутаты абласнога цэнтра ўсьлед за сваімі калегамі з вобласьці абмеркавалі вынікі мінулага года і пэрспэктыўныя пляны на пэрспэктыву. Народныя выбраньнікі пагадзіліся з тым, што ў цэлым і агульным справы ідуць нядрэнна, бо маглі ісьці горш. Аднак як быць з тым, што траціна ўсіх прадпрыемстваў – стратныя, прадукцыйнасьць панізілася, прамысловы гандаль упаў, аб'ём вытворчасьці зьменшыўся на 10 адсоткаў? Падаткавікі «раскапалі» на стабільным «Хімвалакно» нявыплату ў бюджэт страшэнных грошай. Літаральна ўсе вінны за электраэнэргію... Няўжо і праўда можна горш?**

**У Чэрыкаве абмяркоўваліся спэцыфічныя праблемы абласной зоны, што забруджаная радыяцыяй. У кожным зь дзесяці раёнаў ёсьць мясьціны, дзе нельга жыць і займацца гаспадаркай. Там шмат што кінутае: і тэхніка, і пабудовы. Нямала выпадкаў, калі адсуль цягнуць на «экалягічную волю» мэтал, прылады, дэталі, якімі карыстацца небясьпечна. Летась радыяцыйная міліцыя, якой бракавала людзей і паліва, спыніла больш за 500 падобных крадзяжоў. Хто скажа, колькі гандляроў радыяцыйным таварам праскочыла ў зону і адтуль незаўважна...**

**Днямі Беларусь афіцыйна адзначала чарговую гадавіну вываду савецкіх войскаў з Афганістана. Пры тым, што не хапае сродкаў на лекі, выхаваньне дзяцей, ратаваньне навакольнага асяродзьдзя, пабудову жыльля, улада знаходзіць сродкі на правядзеньне сьвяткаваньня, сумнеўнага з маральнага і палітычнага пунктаў гледзішча. Помніць гэтую дату, паколькі праз афганскую вайну краіна страціла больш за 500 хлопцаў, а маральна згубіла значна больш – трэба і варта. Аднак жа не для сьвяткаваньня, а для роздуму, смутку і дзеля недапушчэньня ўдзелу беларускіх салдатаў у будучых войнах, тым больш чужых.**

**Увесь тыдзень у Магілёве правялі раённыя і гарадзкія архітэктары вобласьці. Іх склікалі на «павышэньне кваліфікацыі». Добра, каб гэта дало плён, бо пра нашую, з дазволу сказаць, архітэктуру лепш памаўчаць. Бадай, толькі адзіны раённы цэнтар можа пахваліцца хоць нейкімі дасягненьнямі ў дойлідстве і якасьці будаўніцтва. Але ж гэта вам не абы які райцэнтар, а Шклоў, які да вясковага сьвята пры ўдзеле свайго знанага земляка будавала летась уся краіна. А пабудаванае засталося. І добра.**

***Да сустрэчы. Тэлефануйце!***
***Сымон Глазштэйн.***

СУДОВЫЯ ВЕСТКІ

# Дажывем да панядзелка

У Магілёве напачатку тыдня распачаўся судовы працэс над 27-гадовым Дзьмітрыем Абадоўскім. Хлопец знаходзіцца пад вартай са жніўня леташняга года ў якасьці чалавека, які абвінавачваецца ў згвалтаваньні. Што й казаць, злачынства адное з самых прыкрых.

Тым ня менш многія назіральнікі, грамадзкія актывісты і праваабаронцы, пры гэтым ня толькі мясцовыя, лічаць справу калі не сфабрыкаванай, дык недаказанай.

А пачалося ўсё падчас леташніх апазыцыйных выбараў прэзыдэнта. Дзьмітры Абадоўскі, сын вядомага ў вобласьці і краіне, а зараз і ў ЗША (днямі ён прыняты ў Амэрыканскую асацыяцыю юрыстаў) Сяргея Абадоўскага прадаставіў на час выбарчай кампаніі сваю кватэру ў распараджэньне абласной выбарчай камісіі. Сюды аднойчы надвячоркам і ўварваліся міліцыянты на... ананімны выклік, як яны патлумачылі, каб «накрыць» месца, дзе гандлююць зброяй. Зброю стражы парадку шукалі ў паперах камісіі ды іншых дакумэнтах. Затым зьявілася адносна Дзьмітрыя падазрэньне ў крадзяжы. Нарэшце ўзьнікла справа пра згвалтаваньне.Ператрус зрабілі ў кватэры бацькі, тагачаснага сябры Цэнтральнае выбарчае камісіі па выбарах прэзыдэнта, дзе таксама асабліва цікавіліся дзелавымі паперамі, якіх у старшыні грамадзкага праваабарончага цэнтру і актывіста свабодных прафсаюзаў, якім ёсьць Сяргей Абадоўскі, нямала. Вось толькі ніякіх рэчаў, якія маглі б падмацаваць падазрэньне наконт злачыннага сына, ў кватэры не знайшлося.

Пазьней сталася вядомым, што экспэртны доктар, агледзеўшы дзяўчыну, не пацьвердзіў факт ейнага згвалтаваньня. На апазнаньні яна блыталася ў паказаньнях і прызнала за гвалтаўніка ці то зусім іншага хлопца, ці ня надта ўпэўнена Дзьмітрыя. Словам, недакладнасьцяў, недарэчнасьцяў, нястыковак у працы сьледчага аддзела было, як тое гаворыцца, хоць адбаўляй. На ўсе іх настойліва і прафэсійна ўказваў старэйшы Абадоўскі, які выступіў афіцыйным абаронцам сына. За тое яго зь нейкай нагоды і адхілілі ад удзелу ў справе, што рыхтавалася да суда.

Пра пачатак працэсу (у мінулы панядзелак) Сяргей Абадоўскі даведаўся абсалютна выпадкова. Судзьдзя Цэнтральнага раёна Андрэй Юрчанка патлумачыў гэта тым, што ня ведаў пра абарончыя амбіцыі бацькі падсуднага, маўляў, гэта ў нас вельмі рэдкая практыка. Аднак жа, як сталася вядомым, «афіцыйны абаронца» Дзьмітрыя адвакат Алена Юрэня таксама даведалася пра дзень пачатку працэсу ня менш выпадкова. Ясна, што ў суд абаронцы зьявіліся непадрыхтаванымі і таму адразу заявілі на гэты конт пратэст. Зьдзіўлены прысутнасьцю ў залі ажно шасьці прадстаўнікоў ад розных праваабарончых арганізацыяў, а да таго ж і сябры Амэрыканскай юрыдычнай асацыяцыі сп-ні Сінтыі Элкан, А.Юрчанка пагадзіўся адкласьці пачатак працэсу на тыдзень, каб даць гэты час абаронцам на знаёмства з матэрыяламі справы і падрыхтоўку да суду. Аднак жа пастанавіў, што працэс пройдзе ў рэжыме зачыненасьці. Прысутныя пры тым прадстаўнікі падсуднага і журналісты зразумелі гэтае рашэньне як помсту за нечаканую для судзьдзі ўвагу да працэсу Дзьмітрыя Абадоўскага.

Пачакаем наступнага панядзелка.

***Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ,***
***карэспандэнт «БДГ» – спэцыяльна для «ТМ»***

